Год III. Чэрвень 1934 г. № 6 (30)




Ты єси Пєтръ,
и на семъ камени созижду церковь мою. Мат. ЅІ. ИІ.

# БЕЛАРУСКАЯ РЭЛІГІЙНАЯ ЧАСОПІСЬ.

АЛЬБЭРТЫН

Выдавецтва Таварыства Ісусавага.

ЗЬМЕСТ:



# „Да Злучэньня!“

**Месячная беларуская рэлігійная часопіс.**

Цана асобнага нумару 20 гр.

Падпіска на паўгода. . . . . 1 зл.

„ год . . . . . 2. „

Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі:

Albertyn k/Słonima O. O. Jezuici.

Адрэс Адміністрацыі:

Wilno, ul. Wielka 58.

Konto czekowe P.K.O.: O. Paweł Macewicz 60.601.

Друкуецца з пазваленьня духоўнай улады.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 1.

# ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!

Беларуская рэлігійная часопіс.

Альбэртын. Чэрвень 1934 г. № 6 (30).

## Нядзеля 3-я пасьля Пяцьдзесятніцы.

### *ЭВАНГЕЛЬЛЕ*
### *ПАВОДЛЕ СЬВ. МАЦЬВЕЯ. РАЗЬДЗЕЛ 6, 22-33.*
### *ЗАЧАЛА 18.*

*22. Сказаў Госпад: Сьветачам твайго цела ёсьць твае вока: калі-ж вока твае ёсьць чыстае, дык усё твае цела будзе мець сьветласьць.*

*23. Калі-ж бы аднак твае вока было нягоднае, дык будзе цёмнае ўсё твае цела. Калі-ж сьвятло, каторае ёсьць у табе, пацямнее, дык якая-ж будзе сама цемра.*

*24. Ніхто ня зможа двум паном служыць: бо ці аднаго ўзьненавідзіць, а другога будзе любіць: ці гэтага будзе трымацца, а другім пагардзіць. Ня можаце Богу служыць і мамоне.*

*25. Дзеля таго кажу вам: Не клапацецеся аб сваё жыцьцё, што будзеце есьці, або піць; а ні аб цела вашае — у што будзеце адзявацца: бо ці-ж душа ня ёсьць больш варта, як страва? і цела — ня больш, як адзежа?*

*26. Узіляньце на паднябесныя птушкі: яны ані сеюць, ані жнуць, ані зьбіраюць у гумны: а нябесны Айцец пражыўляе іх! А ці-ж вы ня больш варты, як яны?*

*27. І хто з вас, хоць-бы і як клапаціўся, мог-бы да свайго ўзросту прылажыць адзін локаць?*

*28. І нашто турбуецеся аб адзежы? Узіляньце на палявыя лілеі, як яны растуць! Ані працуюць, ані прадуць.*

*29. А я вам кажу, што ані Салямон, ува ўсёй сваёй славе, ня быў так адзеты, як адна з іх.*

*30. Калі-ж палявую траву, каторая сяюньня ёсьць, а заўтра будзе ўкінена ў печ, Бог так адзявае, як-жа болей вас, о малаверныя!*

*31. Дык ня турбуйцеся, кажучы: Што мы будзем есьці, ці што піць, або ў што адзявацца?*

*32. Бо ўсяго гэтага і паганцы шукаюць: ды ведае ваш нябесны Айцец, што вы гэтага ўсяго патрабуеце.*

*33. Дык перш за ўсё шукайце царства Божага і справядлівасьці яго, а гэта ўсё будзе вам дададзена.*

---

*Дык перш за ўсё шукайце царства Божага і справядлівасьці яго, а гэта ўсё будзе вам дададзена*
*(Мацьв. 6, 33).*

Госпад наш Ісус Хрыстос паказаў нам у гэтых словах тое, што мусіць быць самым першым прадметам нашых думак і жаданьняў, нашых трудоў і высілкаў, і ў чым знаходзіцца найбольшае нашае дабро. Госпад наш ёсьць **„шлях, праўда і жыцьцё“** (Іоан 14, 6). Ня будзем пытацца ў людзей, дзе шлях да шчасьця, але навучымся гэтага ў школе нашага Збаўцы. Ён адзін паказвае нам праўдзівы шлях да шчасьця; Ён адзін навучыў нас, чаго і як мы павінны шукаць, каб мець „спакой душам нашым“. Падумайма з увагай аб гэтых словах Збаўцы.

**„Шукайце“**. Госпад кажа нам шукаць праўдзівага дабра. Хоць Бог заўсёды гатоў даць нам усё патрэбнае і карыснае для нас, але бяз нашага жаданьня і просьбы ня дасьць нам.

**„Прасеце“**, кажа Госпад, і дасца вам, шукайце, і знайдзеце (Мацьв. 7, 7).

Дзеля гэтага першы варунак для таго, каб атрымаць праўдзівае дабро, — ёсьць сардэчнае жаданьне гэтага дабра, шуканьне і малітва.

**„Шукайце“**. Жадайце праўдзівага дабра, пазнайце, чаго не хапае душы, чаго яна шукае і жадае, а пасьля прасеце ў Бога хлеба, жыцьця і вады жывой для душы. Людзі ня шукаюць таго, чаго не жадаюць; ня просяць таго, у чым ня маюць патрэбы. Дзеля гэтага і малітва наша да Бога мусіць выражаць нашыя сардэчныя жаданьні, а ня быць у словах, выходзячых толькі з вуснаў, а ня з сэрца. Людзі жадаюць і шукаюць датуль, пакуль не атрымаюць таго, чаго шукалі.

Але для душы ў гэтым жыцьці няма поўнай радасьці, няма шчасьця нязьменнага, дзеля гэтага трэба маліцца і шукаць бязупынна.

**„Шукайце перш за ўсё“.** Не кажы: ...„Я яшчэ малады, надта рана думаць аб ратаваньні душы маей, перш пазнаю зямныя радасьці, пазнаю зямное шчасьце, а пасьля, калі ўжо будзе блізка да старасьці і сьмерці, пачну думаць аб збаўленьні сваей душы“.

Не кажы гэтак, пражані ад сябе гэткія дрэнныя, згубныя думкі. Шмат людзей гэтак думала і гэтак казала, і адны паміж іх не дажылі да старасьці, памёрлі ў грахох, іншыя нават у старасьці не маглі кінуць сваіх грахоў і не направіліся.

Дый пэўна, да чаго прывыкнеш у моладасьці, ад таго цяжка адвыкнуць ў старасьці. Цяжка навучыцца ў старасьці таго, чаго ня вучыўся ў моладасьці. Цяжэй працаваць над збаўленьнем душы ў старасьці, як у моладасьці, з сэрцам мягкім і з шчырай душой.

**„Шукайце перш за ўсё“:** перад тым, як будзеце думаць аб ежы, аб адзежы, перад думкаю аб тым, як стварыць сваю сям'ю, перад тым, як выбераце сабе палажэньне соцыяльнае і працу, — адным словам, перад усім, не кажу ўжо аб непатрэбных задаваленьнях, — але самых патрэбных у жыцьці прадметах.

Шукайце, — а чаго? Царства Божага і справядлівасьці яго. Галоўную мэту нашых жаданьняў мы звычайна называем шчасьцем і кожны ствараe сабе паняцьце аб шчасьці, паводпе сваіх нахілаў. Але Эвангельле называе галоўную мэту нашу царствам Божым і справядлівасьцю Божаю, і яно-ж аб'ясьняе нам, у чым ляжыць царства Божае. „Царства Божае ўнутры Вас ёсьць“. (Лука 7. 21), — кажа Госпад.

Не ганяйцеся за сваім шчасьцем за мора, у далёкія краі, ня шукайце яго ў нетрах гораў, ня шукайце ані ў багацтве, ані ў пашане, ані якім-небудзь вонкавым дабры: яно знаходзіцца ўва ўнутраных духоўных скарбах, якія дае Дух Сьвяты. Якія-ж гэта скарбы? Апостал называе іх: праведнасьцю, мірам і радасьцю, ня ёсьць, кажа, царства Божае, ні ежа, ні піцьцё, але праведнасьць і мір, і радасьці ў Духу сьвятым.

Чаго ня хопіць таму, хто мае ў душы мір і радасьць і да таго ў Духу Сьвятым, мір Божы і радасьць духоўную і сьвятую: у яго ўсё ясна ў душы, сумленьне чыстае і пакорнае, сэрца ўсім задаволенае: ён ужо на зямлі наперад смакуе шчасьлівасьць нябесную, якая пэўны залог мае ў сабе самой, дзеля таго, што Дух Сьвяты жыве ў ім, як **„залог спадчыны нашае“** (Эфэс. 1, 14).

Але галоўны варунак для гэтага ўнутранага шчасьця,

міру і радасьці ў Духу Сьвятым або царства Божага ў нас ёсьць справядлівасьць Божая.

Шукайце царства Божага і справядлівасьці Божае. Гэта справядлівасьць ёсьць апраўданьне, ачышчэньне ад грахоў, ад плямаў цела і духа; гэта вопратка чыстаты і сьвятасьці, у якой толькі аднэй дапусьцяць нас на Божую вячэру.

Выбельма раней духоўныя рызы ў Крыві Агнца Божага Ісуса Хрыста, набудзьма жывою вераю ў Яго і пакутай. Яго праведнасьць, Ягоныя сьвятыя якасьці і любоў, а тады ўвайдзем у радасьць Госпадаву, тады і мір Божы, перавышаючы ўсякі розум, будзе прабываць у душах нашых.

Дык перш за ўсё „шукайце царства Божага і справядлівасьці яго, а гэта ўсё будзе вам дададзена“.

Пад гэтым усім разумеюцца рэчы патрэбныя для дачаснага жыцьця. Гэткім спосабам Збаўца не пазбаўляе нас і зямнога дабра. Ён толькі паказвае нам вельмі лёгкі і надзейны спосаб, каб яго набыць. Ён быццам гэтак кажа нам: дарма Вы столькі працы і клопату ўжываеце для набыцьця ежы, вопраткі і іншых жыцьцёвых рэчаў, шукайце раней ежы для душы, а цялесную ежу Бог і бяз пільнага шуканьня дасьць Вам; шукайце вопраткі апраўданьня душы, а Бог не пакіне без заслоны Вашага цела: ведае Айцец ваш нябесны, што ўсё гэта вам патрэбна (Мацьв. 6, 32).

Што Бог ня толькі бяз нашае пільнасьці і непатрэбных клопатаў можа даць нам усё патрэбнае для цела, але і бяз ніякай працы нашай можа дараваць гэта, аб гэтым сьведчыць манна, якую Ён пасылаў выбранаму народу свайму ў пустыні. Сьведка гэтага Ільля, каторага карміў крук, сьведкамі многа ўгоднікаў Божых, якія шмат гадоў пражылі ў незаселеных пустынях.

Няўжо-ж Бог, даючы нам вечнае дабро, пашкадуе даць нам дачаснае? Не! -- Ён дае яго грэшнікам, „бо Ён загадвае сонцу свайму ўсходзіць над добрымі і благімі і пасылае дождж на справядлівых і несправядлівых (Мацьв. 5, 45).

Але вечнага дабра Ён ня можа дарыць кожнаму, бяз нашага шуканьня: тутака Ён кажа: шукайце, трудзецеся, а аб дачасным дабры наадварот: ня турбуйцеся дзеля душы вашае, што вам есьці і што піць, ні дзеля цела вашага, у што адзецца (Мацьв. 6, 25). Урэшце ня думайма, быццам Збаўца хацеў забраць ад нас згодныя з законам спосабы для прыдбаньня дабра зямнога — Ён хацеў толькі адсячы непатрэбныя і нязгодныя з законам набыткі, забараніць празьмерныя жаданьні, празьмерныя клопаты аб жыцьцёвых патрэбах.

Не шкадуйце працы, не шкадуйце нічога, каб знайсьці збаўленьне; гэта павінна быць першаю і галоўнай мэтаю нашай, а ўсё іншае лічэце малаважным — усё іншае, што

патрэбна, дадзена будзе бяз цяжкіх трудоў. Якім спосабам? Калі будзем перш за ўсё клапаціцца аб душы, тады ў нас ня будзе марных жаданьняў для цела, ня будзе шмат клопатаў і жаданьняў, якія памножваюць уяўныя і фальшывыя патрэбы нашыя, тады і Бог лепш award паможа нам ува ўсім, і нават малую працу нашу пабагаславіць пладом стакротным, і ўсё так уладзіць, што мы ня будзем ні ў чым патрэбным цярпець недахопу.

Дык пэўна, сьвятое і дасканальна праўдзівае слова Божае:

Дык перш за ўсё шукайце царства Божага і справядлівасьці яго, а гэта ўсё будзе вам дададзена. Амін.

# Выпіска з Апостальскае Констытуцыі

**Яго Сьвяцейшасьці Папы Піуса XI, якою агульны, над'звычайны Юбілей г. 1933 да 1934, сьвяткаваны ў Рыме, пашыраецца на ўвесь каталіцкі сьвет.**

Піус Япіскап слуга слугаў Божых усім верным, якія з гэтым пісьмом азнаёмяцца, прывітаньне і багаслаўленьне апостальскае.

Агульны, над'звычайны Юбілей, абвешчаны Намі ў мінулым годзе дзеля ўшанаваньня дзевятнаццацьвяковай памяці Адкупленьня чалавечага роду і ўжо шчасьліва закончаны, прынёс цераз абмыцьце і ачышчэньне душаў і падняцьце іх „з дому зямнога гэтага прабываньня“ да вышыняў нябесных гэтулькі і гэтак нязвычайных ласкаў і ўцехаў надпрыроджаных, што Мы ня можам устрымацца, каб не злажыць найлепшаму, усемагутнаму Богу падзякаў неспажытых. Бо Мы бачылі ў працягу гэтага Міласьцівага Лета — а было гэта, як Мы думаем, мілаю рэчай для дабраты Божае — нязьлічаных сыноў, што імкнуліся асобна і зборна да гэтага шчасьцядаўчага Гораду і дапушчалі Мы іх да аблічча Нашага і падмацоўвалі іх айцоўскім словам. А адбывалася гэта сярод усіх слаёў грамадзянства і сярод рабочага народу, які штодзеннаю працаю здабывае утрыманьне; сярод найвыдатнейшых у краёх адзінак, каторыя ў вельмі цяжкія гэтыя часы,—а гэта прыклад, варты ўсялякай пахвалы, — атрымлівалі відавочна падмогу нябесную ня толькі для сябе, але таксама і для сваіх; сярод тых, якія цешацца цьвітучай моладасьцю і сярод тых, якія старасьцю блізка што аслабленыя, не збаяліся трудоў падарожы да Рыму. І ня толькі з Італіі ды найбліжэйшых дзяржаваў, але таксама і з заморскіх краёў і з усіх бакоў прыбывалі, так што вельмі старадаўныя сьвятыні Рыму, сьвятыя катакомбы

і нават вуліцы Гораду грымелі ўзвышаным сьпевам, які натоўпы верных „ўсялякай мовы, краю, народу" найнабожней заводзілі. А нярэдка можна было пабачыць мужоў і жанчын, якія, па прыкладу даўнейшых пілігрымаў, адбывалі пешую падарожу і прыбывалі ў Рым, каб убачыць супольнага Айца і атрымаць выбачэньне для істотаў, паверaных іхнай апецы. Аддаём Мы ім айцоўскую пахвалу, тым болей, што з прычыны прыкрага эканамічнага крызысу, які гэтак доўга нас мучыць, не адзін з багамольцаў мусіў ухіліць немалыя труднасьці і перамагчы іх, каб прыняць і ў чын замяніць пастанову гэтага роду.

Але-ж таму, што ня ўсе, хто хацеў, пакіравацца маглі ў Рым дзеля атрыманьня нязвычайна багатых скарбаў нябеснай ласкі, лічым Мы за адпаведную рэч, каб, на моцы звычаю і практыкі Апостальскае Сталіцы, магчымасьць юбілейнага одпусту, даная ў шчасьцядаўчым Горадзе жыхаром яго і багамольцам да сяньняшняга дня, даступнай была ўсюды, праз цэлы год. Каб гэтае збаўчае мэты дасягнуць, заклікаем усіх кіраўнікоў Царквы, перш за ўсё Япіскапаў, каб цераз адпаведныя пропаведзі і духоўныя цьвічэньні ды набожныя багаслужэньні прыгатовілі якнайбольш верных, як трэба, і ўсімі сіламі накланілі да скасаваньня вінаў праз Таінства Пакуты і атрыманьня дабрадзействаў гэтага-ж поўнага одпусту. Хай іх заахвоцяць, каб, паводле нашае інтэнцыі, ўзносілі мольбы да Бога. А што да гэтай інтэнцыі, дык Мы жадаем, каб апрача тых мэтаў, якія Мы паручылі ў Апостальскім Пісьме „Quod nuper," а іменна, каб была вернена ўсюды належная свабода Царкве, а ўсе народы былі даведзены да міру, згоды і праўдзівае памыснасьці, просьбы верных таксама старанна здабылі заўсёднае разьвіцьцё вытрывалае і няўступчывае дзейнасьці Місіянэраў ды шчасьліва прывялі адшчэпленых ад Царквы да аднае Ісуса Хрыста аўчарні.

Апрача гэтага Мы хочам дакінуць да гэтае інтэнцыі Нашае падробнасьць, якая Нам вельмі ляжыць на сэрцы. Бо ў не адным краі ўзрастае спроба „ваюючых Атэяў," якія, зухвала бунтуючыся проці Божства, гардзяцца сваім бязбожным і праступным клічам, як быццам уласным штандарам: „Бяз Бога, проці Бога"; дзеля гэтага Мы лічым рэчай вельмі сваячаснаю, каб цяперашнім прадоўжаньнем гэтага экспіацыйнага году на ўвесь каталіцкі сьвет вынаградзіць малітваю і шчодрым чынам паводле магчымасьці гэту страшэнную крыўду, зробленую Боскаму Маестату. Просім, каб гэта зрабілі ўсе верныя, а іменна: дабіліся ад міласэрнага Айца, каб агідныя высілкі гэтых пераваротных людзей, што імкнуцца ня толькі да зьніштажэньня ўсякае рэлігіі, але і ўсякай культуры ды праўдзівай цывілізацыі, ўрэшце спыніліся і абярнуліся ў нішто. Хай атрымаюць і тое прось-

бамі ды ахвярамі сваімі, каб Збаўца роду чалавечага засьлеплены іх розум, — маем на думцы тых, што зракаюцца Бога і ненавідзяць Яго, — паразіў праменем сьвятла нябеснага ды, парушаных сорамам збаўчым ды пакутаю, міласьціва прывёў да абняцьця айцоўскага. Маем замер у сувязі з гэтаю справаю перад закончаньнем юбілейных урачыстасьцяў узяць удзел у Ватыканскай Базыліцы ў мольбах прасіцельных у дзень, які ў сваім часе азначым.

Дзеля гэтага павагай Бога Усемагутнага, сьвятых Апосталаў Пётры і Паўла, а таксама Нашаю расшыраем Вялікі Збаўленьня Божага Юбілей, сьвяткаваны ў Рыме, гэтым Апостальскім Пісьмом на ўвесь каталіцкі сьвет, а іменна на Царкву заходнюю і Царкву ўсходнюю, і прадоўжваем яго на цэлы год так, што можна яго ад Вялікоднае актавы сёлетняга году да Вялікоднае актавы будучага 1935 году атрымаць.

Дзеля гэтага ўдзяляем і надаём усім абодвых полаў верным, хоць-бы ў мінулым годзе Юбілей атрымалі, павагаю Нашаю апостальскаю найпаўнейшы одпуст усяе кары, якую-б за грахі адцярпець мусілі. Атрымаць яго могуць усюды па-за Рымам і яго прадмесьцем, па атрыманьні адпушчэньня і дараваньня грахоў сваіх, абы толькі, як трэба, Таінствам Пакуты ачышчаныя і Прычасьцем сьв. падмацаваныя, цэрквы або капліцы публічныя, дзеля гэтае мэты вызначаныя ў устаноўлены час набожна наведалі. Усё гэта павінны споўніць паводле асноваў, якія ў хуткім часе установяцца.

I. Япіскапы Ордынатары азначаць самі або цераз дасьведчаных духоўнікаў, якім таксама, калі захочуць, уладу гэтую на цэлы год пакінуць, — з мэтаю правядзеньня наведваньняў юбілейных, ў япіскапскай сталіцы касьцёл катэдральны і тры іншыя касьцёлы або публічныя капліцы, у якіх хоць часам адпраўляецца сьв. Літургія; а ў прадмесьці і ў іншых часьцях епархіі азначаць парафіяльны касьцёл паасобнай епархіі, а таксама ў межах тае самае парафіі тры іншыя касьцёлы або капліцы, як гэта Мы паказалі вышэй. Гэта самае загадаюць у Усходняй Царкве Патрыярхі і іншыя Япіскапы Ордынатары самі або цераз дэлегованых духоўнікаў; аднак-жа кожны ў сваёй епархіі.

II. Як у працягу мінулага экспіацыйнага году ў Рыме, так і сярод будучага году трэба трыкротна наведаць кожны азначаны касьцёл або публічную капліцу. Наведаць яе можна або ў той-жа самы дзень, або і ў дні наступныя, так што верныя, толькі што выйшаўшыя з сьвятыні, могуць зараз-жа ўвайсьці ізноў дзеля другога і трэцяга наведаньня. Калі ў якім месцы няма чатырох касьцёлаў або публічных капліцаў, дык Япіскапы Ордынатары могуць загадаць самі ці праз сваіх дэлегатаў, каб дванаццаць прадпісаных

наведаньняў можна было адбыць у меншай колькасьці касьцёлаў, іменна так, што або чатыры наведаньні адбудуцца ў трох касьцёлах, або шэсьць у двух, або дванаццаць у адным толькі касьцёле.

III. (Пункт гэты ў пачатку датычыць лаціньнікаў).

Верныя Усходняе Царквы павінны ў часе юбілейных наведваньняў і публічных малітваў у чэсьць Таінства Сьв. Эўхарыстыі, Ісуса Хрыста Расьпятага, а таксама Багародзіцы Дзевы або паводле Нашае інтэнцыі, таксама ў часе вызнаньня веры паводле прадпісанай формулы датарноўвацца да асноваў, каторыя для розных абрадаў іхным Патрыархам і Япіскапам Ордынатарам Наша сьв. Кангрэгацыя для Усходняе Царквы падасьць у сваім часе. Апрача таго паасобным Япіскапам Ордынатарам даецца ўлада замяняць малітвы, прадпісаныя ў часе сьвятых прыватных наведваньняў, на малітвы іншыя. Верныя Усходняе Царквы, прабываючыя па-за межамі свае тэрыторыі, могуць таксама, калі прылучацца да багамольцаў лацінскага абраду, карыстацца формуламі, прадпісанымі для лаціньнікаў; паасобным асобам можна адмаўляць формулы ўласныя або формулы лацінскага абраду.

IV. Дзеля таго, што некаторыя малітвы згаварыць трэба перад Ісусам Хрыстом, укрытым пад Эўхарыстычнымі заслонамі, Япіскапы Ордынатары павінны пры азначаньні касьцёлаў або публічных капліцаў старацца выбраць гэткія, у якіх Сьв. Дары звычайна законна перахоўваюцца або прынамсі ў часе наведваньня прысутнымі быць могуць. А калі з прычынаў спэцыяльных — што асабліва ў місійных краёх можа здарыцца — правясьці гэтага нельга, дык ня трэба прапушчаць ніводнае з прадпісаных малітваў. Тыя, якія Эўхарыстычнаму Ісусу Хрысту прадлажыць належыць, могуць верныя ў думцы і духу з паважаньнем заносіць да Сьв. Тайнаў, хоць-бы і няпрысутных, складаючы найгарачэйшыя падзякі за годны зьдзіўленьня дар Эўхарыстыі і найнабожнейшыя задавальненьні за зьнявагі гэтымжа Тайнам прычыненыя. Таксама ў гэткіх акалічнасьцях адбыцца можа вызнаньне веры перад Ісусам Хрыстом Расьпятым.

V. Каб верныя лягчэй маглі адбыць юбілейныя наведваньні, даецца ім магчымасьць адбыцьця іх таксама і па-за межамі свайго прыходу або епархіі, аднак-жа ў касьцёлах для месцаў тых вызначаных. Магчымасьць гэтая даецца таксама і місійным народам з прыйманьнем пад увагу паасобных акалічнасьцяў.

VI. Апрача таго загадваем, каб, як практыкавалася ў Рыме ў часе мінулага малітвеннага году, верныя маглі атрымаць Юбілей для сябе і для памёршых гэтулькі разоў, колькі разоў споўняць прадпісаныя паступкі, аднак-жа

з тою засьцярогаю, што нельга брацца за пастулкі з мэтай атрыманьня другога Юбілею, пакуль не закончаны будуць пачатыя пастулкі для першага.

VII. Каб прыйсьці з падмогаю тым, хто ў асаблівых знаходзіцца акалічнасьцях, пастанаўляем наступнае:

1. Маракі, а таксама ўсе, хто на караблёх заняты, могуць, калі карабель, на якім падарожнічаюць, мае капліцу, у якой сьв. Літургія адпраўляецца, адбыць у ёй юбілейныя наведваньні. Калі капліцы няма, дык пазваляем, каб, як толькі заедуць у які порт, там-жа ў якой-нібудзь царкве адбылі наведваньні і згаварылі прадпісаныя малітвы.

2. Япіскапы Ордынатары могуць самі або цераз духоўных дэлегатаў тым, хто прадпісаным спосабам ня можа адбыць візытацыяў, або лік іх паменшыць або сьцясьніць колькасьць наведваных цэркваў або, нарэшце, сьвятыя наведваньні замяніць на набожныя ці дабрадзейныя пастулкі, датарнованыя да палажэньня паасобных асобаў. Асобамі, падлягаючымі перашкодам, лічым тут манашак, сёстраў законных, тэрцыярак, набожных жанчын і дзяўчат, а таксама іншых асоб, прабываючых у жаноцкіх школах ці інтэрнатах; пустыньнікаў, што жывуць у манастырох, паводле законнай рэгулы, і адданых хутчэй контэмпляцыі, чымсь жыцьцю дзейнаму, як Трапісты, Камэдулы і Картузіяне; палонных і арыштантаў; духоўнікаў і манахаў, затрыманых з мэтай паправы ў манастыры ці ў іншых дамох. За падлягаючых перашкодам лічацца таксама і тыя, хто даглядае ўдома ці ў шпіталі або слабы здароўем, а таксама ўсіх тых, хто хворым патрэбны; наагул усіх, хто мае пэўную перашкоду, якая робіць немагчымымі прадпісаныя наведаньні; тое самае права належыць, паводле Нашага рашэньня, работнікам, якіх Мы азначылі ў Констытуцыі „Qui umbratilem vitam“ за 3 студня мінулага году; нарэшце старцаў, якія перайшлі за семдзесяты год жыцьця.

3. Япіскапы Ордынатары, так-жа могуць, таксама праз дэлегатаў, як Мы вышэй сказалі, — вызначыць меншую колькасьць наведваньняў: а) зграмаджаньням духоўным або манашаскім, прызнаным царкоўнаю Уладаю; б) брацтвам, набожным арганізацыям, а таксама толькі тым сьвецкім саюзам, якія займаюцца разьвіцьцём каталіцкіх справаў; в) моладзі, якая жыве ў калегіях або адведвае калегіі з мэтаю навукі ці выхаваньня штодзенна або ў азначаныя дні; г) усім верным, якія пад старшынством настаяцеля ці духоўніка, ім дэлегованага, або іншага духоўніка, — аднак-жа толькі ў месцы, у якім няма законна ўстаноўленага прыходу, — маюць наведваньні адправіць. Хай Япіскапы Ордынатары пад тым варункам зьмяншаюць колькасьць наведваньняў, што гэтыя пералічаныя ўсе пайдуць у наведваныя сьвятыні працэсіянальна, хоць-бы і без сваіх азнакаў.

4. А дзе з якой-нібудзь прычыны нельга ладзіць паходу па вуліцах, дык можа Япіскап Ордынатар, а таксама яго вышэйспомненыя дэлегаты сьцясьніць і зьменшыць колькасьць наведваньняў, абы толькі ўнутры сьвятыні або паход разьвінуўся, або прынамсі наведаньне адбылося ўрачыста і супольна ўсімі там сабранымі. Япіскап Ордынатар, а таксама і яго дэлегаты ня могуць аднак-жа нікога звольніць ад абавязку сакрамэнтальнай споведзі і сьв. Прычасьця, хіба толькі, калі ад аднаго ці другога абавязку ўстрымлівае цяжкая хвароба.

(У пунктах VIII і IX пералічваюцца правы спаведнікаў у адношаньні да верных).

Затым жадаем, каб усе загады і выясьненьні гэтага Апостальскага Пісьма засталіся ненарушанымі і важнымі з мэтай распаўсюджаньня Юбілею на ўвесь каталіцкі сьвет бяз увагі на якія-нібудзь правілы, гэтаму праціўныя, а прыказваем, каб копіям і адрыўкам Пісьма гэтага, аднак-жа падпісаным публічным натарыюсам з прылажэньнем пячаткі царкоўнага дастойніка, заверылі таксама, як заверылі-б гэтаму Пісьму, калі-б яно было прадложана і паказана.

Дзеля гэтага нельга нікому аслабляць гэтага Нашага дару, Нашае волі, Нашага выясьненьня, данага на пісьме, або зухвала яму працівіцца. А калі хто адважыўся-б іх зачапіць, дык хай ведае, што сьцягае на сябе гнеў Бога Ўсемагутнага, а таксама сьв. Апосталаў Пётры і Паўла.

Дана ў Рыме, у сьв. Пётры, 2 красавіка 1934 г., Понтыфікату Нашага году трынаццатага.

(—) *Fr. T. Pius O. P. Card. Boggiani*
Канцлер Сьв. К. Р.

(—) *Laurentius Card Lauri*
Пэнітэнцыяр Большы.

---

# Хроніка.

## У ПОЛЬШЧЫ.

**Торунь. Паморскі ваявода ў справе сэкты „Kościoła Narodowego“**. На паведамленьне Ўладыслава Фарона аб злучэньні Нацыянальнага Касьцёла з Старакаталіцкім Зборам ваявода паморскі п. Кіртікліс адказаў няпрыняцьцем да ведама гэтага паведамленьня, дзеля таго, што старакаталіцкія арганізацыі не зьяўляюцца прызнаным Дзяржаваю веравызнаньнем. (КАП).

## ЗА ГРАНІЦАЙ.

**Апостальскі Адміністратар у Харбіне [а. Архімандрыт Фабіян Абрантовіч** 4 траўня с. г. прыбыў у Рым. Пасьля

адбытых аўдыенцыяў будзе лячыцца ад рэўматызму. У ліпні і жніўні хоча адведаць Навагрздак і Друю.

**Вялікія разьмеры навярненьняў у Аўстрыі.** „Osservatore Romano“ зьвяртае ўвагу на стыхійны характар таго рэлігійна-грамадзкага руху, які адбываецца ў Аўстрыі пад клічам павароту да Каталіцкае Царквы. У працягу двух апошніх месяцаў просьбы аб прыйме да Царквы ў самай Вене зла-жыла 80.000 асобаў, а ўва ўсёй Аўстрыі 60.000. (КАП).

**Софія. Барацьба з масонэрыяй у Баўгарыі.** Нядаўна на сабраньні Саюзу Запасных Афіцэраў у Софіі сябры Саюзу выступілі проці управы з закідамі ў выслужваньні масонэрыі. Завязалася гарачая дыскусія, у часе якое прэзэс Саюзу гэнерал Сіманаў і два сябры ўправы: гэнерал Міділеў ды майор Кажугараў прызналіся ў прыналежнасьці да масонэрыі. У рэзультаце управа саюзу падалася ў адстаўку. (КАП).

**Рым. Сваячка Папы адкрывае шпіталь у Кітаі.** Сваячка сьв. Айца маркіза Mongioli адкрывае разам з мужам сваім—доктарам каталіцкі шпіталь у Каіфэнг. (КАП).

**Бруссэль. Барацьба з порнографіяй у Бэльгіі.** На найбліжэйшым паседжаньні парлямэнту бэльгійскі ўрад замерваецца запрапанаваць праект закону аб забароне ўвозу ў Бэльгію літэратуры і абразкоў з порнографічнаю тэндэнцыяй пад пагрозаю вельмі строгіх караў. (КАП).

**Ватыкан. Бэатыфікацыя Пётры Рэнато Рогуэ.** 11-га траўня с. г. у базыліцы сьв. Пётры адбылася ўрачыстасьць бэатыфікацыі а. Пётры Рэната Рогуэ з таварыства Лязарыстаў, казьненага на гільотыне ў часе францускае рэвалюцыі ў 1796 годзе. (КАП).

**Рым. Адклад летніх вакацыяў сьв. Айца.** Рымская прэса падае, што сьв. Айцец ня мае замеру ў бягучым годзе выехаць на даўжэйшы летні пабыт у Кастэльгандольфо. У кожным выпадку адбудзецца гэта ў бягучым месяцы чэрвені, пасьля двух агалошаных бэатыфікацыяў, канонізацыі і экспіацыйнага набажэнства за зьнявагі, зробленыя Богу прапагандаю бязбожжа, і пасьля магчымага скліканьня кансысторыі дзеля назначэньня новых кардыналаў. (КАП).

**Бэрлін. Чуткі аб трэцім польскім кардынале.** Нямецкая прэса ўжо доўгі час натуе чуткі, што ў часе чаканае кансысторыі сьв. Айцец назначыць трэцяга польскага кардынала. (КАП).

**Рым. 5.000 кілёмэтраў пехатою ў Рым.** Рымскія газэты пішуць аб вартым зьдзіўленьня подзьвігу аднаго маладога індуса, які пехатою прыбыў да Вечнага Гораду з Індыі, за 5.000 кілёмэтраў, каб асабіста злажыць чэсьць сьв. Айцу перад закончаньнем Юбілейнага Году. Індус гэты, Ксавэры Монтэіро, выйшаў з гораду Гоа 24 кастрычніка 1932 году. (КАП. 7 траўня 1934).

**Ватыкан. 10 новых сьвяшчэньнікаў Кітайцаў.** Апосталь-

скі Вікары з Мінгпо (у провінцыі Тсэкіанг) Я. П. Япіскап Дэфэбр высьвяціў апошнім часам у сэмінарыі сьв. Вінцэнтага ў Кіашынг дзесяць Кітайцаў. Сам Япіскап Дэфэбр атрымаў у гэтай самай сэмінарыі духоўніцкае высьвячэньне 24 гады назад. Агулам сэмінарыя гэта дала 118 духоўнікаў, з якіх 81 кітайцаў. (КАП).

**Парыж. Каталіцызм у скандынаўскіх краёх.** Цяпер у Швэцыі ёсьць 10 каталіцкіх прыходаў (у 1923 г. — пяць) і 21 духоўнік, з чаго двух Швэдаў.

У Даніі каталікоў больш як 25 тысяч, сярод іх некалькі тысяч польскіх эмігрантаў, маюць 40 місійных станцыяў, 75 цэркваў і 90 сьвяшчэньнікаў, у тым ліку 20 Датчанаў.

У Нарвэгіі каталіцкая Царква прызнана ў 1845 г. Ёсьць цяпер там тры царкоўныя провінцыі, 19 місійных станцыяў, 23 цэрквы і 43 сьвяшчэньнікі. У Ісляндыі — 25 місійных станцыяў, пяць духоўнікаў і япіскап. Фінляндыя з 1920 г. мае асобны апостальскі вікарыят з 4-ма прыходамі і 8 сьвяшчэньнікамі, з якіх 2 Фіны. (КАП).

**Бэрлін. Павялічэньне рэлігійных настрояў у савецкай Расеі.** „Berliner Tageblatt“ падае з Масквы, што там ізноў пачынаецца з узмоцненай энэргіяй шалёная антырэлігійная кампанія. Савецкі ўрад загадаў, каб у гэтай кампаніі памагалі антырэлігійным арганізацыям усе ўрадовыя органы і перш за ўсё ГПУ. Прычынаю ўзмацненьня барацьбы ёсьць устаноўленае ў часе апошніх сьвятаў павялічэньне рэлігійнасьці сярод народу, як у Маскве ды большых гарадох, так і на провінцыі. У шмат якіх месцах цэрквы былі настолькі перапоўненыя вернымі, што багаслужэньні адбываліся нават на вуліцах. Першы раз за шмат гадоў у Маскве і ў Данецкім вокрузе на вуліцу вышлі працэсіі, у якіх удзел бралі нават натарычныя камуністы. У Маскве гэта давяло нават да сутычкі з агентамі ГПУ, якія выступілі проці браўшых удзел у працэсіях. Сьледам за гэтым замкнута ў Маскве некалькі сьвятыняў, у Надволжанскім вокрузе рад цэркваў заменены на камуністычныя клюбы, 42 духоўнікі арыштованы пад закідам забароненага дзяржаўным законам навучаньня моладзі. Але гэта ня стрымлівае далейшага рэлігійнага адраджэньня. З усіх бакоў Расеі надыходзяць весткі, што там, дзе пазачыняныя цэрквы і сьвятыні, верныя зьбіраюцца на малітвы ў скляпох і катакомбах. (КАП).

**Загрэб. Жыдоўскія масонскія лёжы ў Югаславіі.** Пасьля вайны вельмі выдатна зазначыўся рост масонэрыі ў Югаславіі. Апошнім часам побач з агульнымі лёжамі пачалі паўставаць спэцыяльныя жыдоўскія лёжы г. зв. „B‘nai B‘rith.“ Асаблівы рух у гэтым сэнсе зазначыўся пасьля прыбыцьця ў Югаславію значнейшае колькасьці ўцекачоў з гітлераўскае Нямеччыны, змушаных пакінуць граніцы Рэспублікі з прычыны вядомых антыжыдоўскіх загадаў.

# КУТОК ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# Хрыстос такі добры...

Было ўжо пад вечар, зімой, хутка рабілася цёмна. Міхалка ішоў па вуліцы, усунуўшы рукі ў кішані, аглядаўся і ішоў далей. Сяньня яму нават і сьвістаць не хацелася, неяк вельмі сумна і цяжка было на сэрцы... Ідзе Міхалка, думае, і ўспамінаецца яму, як сяньня ён паспрачаўся з сястрой — Марылькай, адабраў ад яе забаўку, нават папсаваў яе, пасьля гэтак нявветліва адказаў матцы, не хацеў памагчы ў працы, ударыў брата, нават ката беднага і таго мучыў, тузаў за брысы... а цяпер без пазваленьня вышаў на вуліцу, замест таго, каб рабіць лекцыі. А ў школе?! Там яго ня любяць, бо ён б'ецца, ня хоча вучыцца, лянуецца. Гэтак праходзілі дні, месяцы, а ён аб гэтым ніколі ня думаў, быў заўсёды вясёлы, і сяньня чамусьці ўсё гэта ўспаміналася яму, а на душы зрабілася так цяжка, адзінока і ён падумаў: „о, які я нядобры, як усім цяжка са мною". Але ён, бедны, ня ведаў, што трэба зрабіць, каб быць лепшым!.. Раптам пачуў ён вясёлы сьмех дзяцей, рэзвыя галасы і гутарку. Схаваўшыся за дзерава, ён слухаў. Дзеці вясёла гаварылі паміж сабою:

...„Ах, якое цікавае было сяньня сабраньне!"...

...„Якая я шчасьлівая, што належу да Рыцарства, іншыя дзеці нічога ня ведаюць, як любіць Хрыста"....

...„Пойдзем усе заўтра да споведзі і да сьв. Прычасьця"...

...„Хрыстос такі добры!"....

...„Хрыстос такі добры"... даляцелі да Міхалкі апошнія словы... добры... а ён — Міхалка?!... І яшчэ больш цяжка зрабілася на душы... які ён злы... Гэта дзеці шчасьлівыя, а ён — такі сумны, адзінокі... о, як-бы ён хацеў быць гэткім вясёлым і шчасьлівым, як яны!..

Ізноў успомніліся яму ўсе яго правіннасьці, непаслухмянасьць і на душы зрабілася яшчэ цяжэй.

Ён прытуліўся да дзерава, заплюшчыў вочы і доўга-доўга гэтак стаяў...

...„Пойдзем усе заўтра да споведзі"... успомнілася яму... „Хрыстос такі добры"... і раптам дзьве вялікія сьлязы ўпалі з вачэй... „Хрыстос такі добры"...

Успомніў ён сваю першую споведзь, сьв. Прычасьце, як ішоў ён і так сардэчна, так шчыра казаў на споведзі пра ўсе свае грахі, гэта-ж казаў ён усё самому Богу. Яму гэтак шкада было Хрыста, што ён крыўдзіў яго сваімі грахамі, яму гэтак хацелася плакаць тады на споведзі, але ён чамусьці ўстрымліваўся, а пасьля споведзі было гэтак лёгка на душы, як-бы гара звалілася, а Бог быў гэтак блізка, з усімі было яму добра, бо ён ува ўсіх прасіў выбачэньня.

Пасьля, на другі дзень, пайшоў ён да сьв. Прычасьця; і помніць ён адно, — што быў вельмі шчасьлівы!..

Тады была вясна, травень... усё цьвіло, сонейка сьвяціла... а ў душы яго таксама была вясна і сонца... гэта быў Сам любячы і шчыра люблены Хрыстос... А цяпер? Што з ім зрабілася? Чаму ён гэткі няшчасны?

Пайшоў ён нядобрым шляхам, маючы прыклад нядобры, забыў ён аб Хрысьце!..

...„Хрыстос такі добры“ ..

І вось там, у глыбіні душы, прачхнулася раптам штосьці, расьце, узмацоўваецца, і Міхалка праз сьлёзы, але ўжо хутка махнуў галавой, бліснуў вачыма і пастанавіў: „Пайду і я заўтра да споведзі і да сьв. Прычасьця!“...

...„Хрыстос такі добры“...

Прышоў ён да хаты, быў такі ціхі, не гаварыў, ціха лёг спаць, але доўга заснуць ня мог — прыпамінаў свае грахі, а было іх шмат, і ціха плакаў, утуліўшы твар у падушку, каб ніхто ня чуў... Урэшце ён заснуў... А назаўтра прачхнуўся рана-рана, ціха ўстаў, апрануўся і, нікім незаўважаны, выйшаў з хаты і пайшоў да царквы.

Так хацелася ўсё сказаць на споведзі, ачысьціць сваю душу... Урэшце прыйшла гэта жаданая, шчасьлівая мінута! Ён пачуў, як ачышчаецца яго сэрца, як ласка Божая ўваходзіць да яго, як Хрыстос любіць яго...

...„Хрыстос такі добры“...

Пасьля споведзі адыйшоў ён у куточак, ціха апусьціўся на калены... Цяпер быў толькі — Хрыстос і ён... ён заплакаў...

...„Хрыстос такі добры“...

О, не, цяпер гэта ўжо ня той самы Міхалка! Цяпер ён будзе іншым. Доўга яшчэ ён маліўся, а калі выходзіў з царквы, — вочы яго і чало былі гэткія ясныя, была ў іх нейкая моцная пастанова!...

Хутка ішоў ён да хаты. А ў хаце пачалася ўжо штодзенная праца. Міхалка зрабіў тое, што пастанавіў.

Ён падыйшоў да мамы і так сардэчна, як гэта можа зрабіць толькі моцна любячы сын, прасіў у яе выбачэньня і сказаў: — „Мама, сёньня я быў у споведзі і ў сьв. Прычасьця і цяпер буду іншым!“ А маці прытуліла яго да грудзей, і ў вачох у яе блішчэлі сьлёзы...

Падыйшоў ён да бацькі, да сёстраў. Яшчэ лягчэй зрабілася на душы, а пастанова зрабілася яшчэ мацнейшай. Ішлі дні, месяцы...

Міхалка перамяніўся... Для бацькоў быў ён ветлівым, для сёстраў быў вельмі сардэчным, нават рабіў ім забаўкі, а калі яны спрачаліся паміж сабою, — ён іх заўсёды мірыў. І ў школе таксама прыкмецілі, што Міхалка перамяніўся. Зрабіўся ён пільным у навуцы і спакойным. Часта бачылі, як заходзіў ён пасьля школы да царквы, каб хоць некалькі мінут пабыць з Богам... А раніцай перад лекцыямі кожны дзень бег ён да царквы, каб прыняць да свайго сэрца Таго, Каго любіў, Хто быў для яго гэткім добрым!...

І Хрыстос даваў яму сілы, даваў яму многа свае ласкі. А працаваў Міхалка шчыра над сабой: так доўга быць нядобрым, а цяпер адразу паправіцца, — гэта нялёгка! Але Міхалка моцна пастанавіў быць добрым і Хрыстос памог яму. Цяпер Міхалка быў прыкладам для ўсіх. Ён часта ачышчаў сьв. споведзьдзю сваю душу, часта думаў аб тым, каб быць у Рыцарстве, каб яшчэ лепш служыць Хрысту. І, запраўды, хутка яго прынялі да асьпірантуры Рыцарства, а пасьля хутка заслужыў на прыняцьце да Рыцарства. Нарэшце тут знайшоў ён тое, чаго гэтак жадаў! Цяпер ён мог паказаць Хрысту сваю шчырую любоў. Яшчэ больш працаваў ён над сабой, стараўся быць паслухмяным, уважным, стараўся добра выпаўняць абавязкі Рыцарства. Асабліва любіў ён прыходзіць да царквы, быць блізка Хрыста, утоенага ў Прасьвятых Дарох, гаварыць з Ім, быць з Ім — і разам з Ангеламі і сьвятымі ўвасхваляць Таго, Хто быў для яго такі Добры...

Асабліва любіў Міхалка лекцыі Закону Божага (рэлігіі), якога раней ніколі ня вучыўся. Таварышы яго і цяпер ня вучыліся Закону Божага і стараліся на лекцыях рабіць бацюшцы розныя няпрыемнасьці, але павага Міхалкі, яго пільнасьць на лекцыях і ўшанаваньне да бацюшкі прымушала іх сьціхаць, устрымлівацца. Аднойчы адзін з іх прынёс многа нядобрых кніжак з брыдкімі малюнкамі. Яны парадзіліся паміж сабой, палажылі іх там, дзе сядзеў Міхалка, пакінуўшы пры гэтым запіску: „Хто зьнішчыць хоць адну кніжку, таго сустрэне вялікая няпрыемнасьць“. І задумалі яны пабіць Міхалку.

Прышоўшы ў школу, Міхалка заўважыў гэтыя кнігі. Таварышы сачылі за ім, гаварылі нешта паміж сабой і сьмяяліся...

Але Міхалка не збаяўся. Пасьля лекцыяў, ня думаючы доўга, узяў ён гэтыя кніжкі, кінуў іх у печ і — падпаліў. Даведаліся аб гэтым здарэньні таварышы і пастанавілі пакараць Міхалку. На вялікай перамене ўсе засталіся ў кля-

се. На катэдру ўзыйшоў найбольшы Міхалкаў вораг—Алесь, яго абкружылі падобныя да яго таварышы.

Алесь пачаў гаварыць аб Богу з насьмешкай і пагардай, гаварыў, што няма Бога. Усе глядзелі на Міхалку, каторы сядзеў на сваім месцы, моцна сьціснуўшы губы і ўсёю сілаю зьдзержваўся. Калі-ж дайшло да таго, што пачалі кашчунстваваць, гаварыць дрэнныя рэчы на сьв. Прычасьце, — ён ня вытрымаў!... Ускочыў і ў адну мінуту быў на катэдры... „Пайшлі проч адсюль, нягодныя! Ня сьмейце гэтак выражацца аб Богу!... Глядзі, „каб цябе Бог не паразіў на месцы!“ — крыкнуў ён Алесю.

Твар і ўвесь ён гэтак зьмяніўся. Усе сьціхлі, адыйшлі... Ад Міхалкі веяла нечым незямным, сілаю вышэйшаю і ніхто не рашыўся сказаць ні слова... „Калі хто пасьмее сказаць хоць адно слова на Бога, хай падыйдзе да мяне“, — спакойна, але з вялікаю сілай сказаў Міхалка. Усе маўчалі... Алесь апомніўся першы, зрабіў шаг наперад, хацеў штосьці сказаць, але вочы яго сустрэліся з вачыма Міхалкі, якія ў гэты час бліснулі нейкім незямным агнём, бровы стуліліся і ўвесь твар быў ясны, станоўчы, агністы пагляд пранікаў Алеся... Гэта была маўклівая барацьба... Алесь ня вытрымаў гэтага пагляду і спусьціў вочы... Зрабілася нешта нязвычайнае — усе ціха адыйшлі, не сказаўшы ні слова... Усе зразумелі, што бароцца з Міхалкай, з якім і ў душы якога жыве Сам Бог,—немагчыма і яны адыйшлі, уступілі...

З таго часу ніхто не чапаў Міхалкі, яго шанавалі, а Закон Божы хутка зрабіўся самай прыемнай лекцыяй для ўсіх вучняў.

Вось гэта быў праўдзівы рыцар, які годны быў імя „Рыцара“ і сьцягу Рыцарства, які заўсёды давалі яму нясьці.

Ён любіў Хрыста і Хрысту хацеў аддаць усё сваё жыцьцё...

Калі ён вырас, дык пасьля школы вучыўся ён далей, але ўжо з тэю думкаю, каб быць сьвяшчэньнікам...

І тады ўжо зрабіўся праўдзівым рыцарам, які ня толькі бараніў сьвятое імя Хрыста, але заўсёды насіў яго ў сваёй душы, даваў гэтага Добрага Хрыста другім, а кожны дзень у часе сьв. Літургіі мог на руках трымаць Таго, Каго палюбіў усім сэрцам, Хто быў для яго гэткім Добрым...

О, які Хрыстос добры!...

*Сястра Гілярыя.*



# Усячына.

Шалёныя сьветагляды. „Osservatore Romano" прыводзіць гэткі сказ аднае з спартыўных італьянскіх часопісяў: „Хто не разумее боксэрскага матчу, як аб'яўленьня мужчынскае радасьці жыцьця і дрыжыць, калі кроў б'е з разьдзёртых жылаў, той ня ёсьць сынам новых часоў, якія не ахоўваюць слабавітых, але дужых хочуць бачыць яшчэ дужэйшымі." Полемізуючы з гэтага роду жыцьцёвай філёзофіяй, ватыканская газэта дадае: „Да расізму ды іншых недарэчнасьцяў прыбывае цяпер сьветагляд, які дастаўляе новы доказ, што чалавецтва запраўды збочвае на шляхі шаленства. Прырода, здароўе і розум вымагае, каб кроў заставалася ў жылах і не тварыла ніякіх фонтанаў дзеля забавы хворых, пэрвэрсыйных людзей"...

Абразы Гітлера на аўтарох пратэстанскіх цэркваў. Нядаўна на сабраньні г. зв. Вольнага Эвангеліцкага Сыноду брандэнбурскае провінцыі пастар Якобі сказаў прамову, востра выступаючы проці „Нямецкіх—Хрысьціян," павадыром якіх ёсьць эвангеліцкі „япіскап Рэспублікі" Мюльлер. Якобі сьцьвярдзіў, што арганізацыя гэта грашыць проці першае запаведзі Божае і што ён ведае шмат выпадкаў, калі пастары памясьцілі абразы Гітлера на аўтарох.

Аднаўленьне зносін Гішпані і з сьв. Сталіцаю. Урадовая газэта ў Мадрыдзе абвясьціла дэкрэт прэзыдэнта, назначаючы міністра заграцічных справаў Піта Ромэро надзвычайным амбасадарам пры сьв. Сталіцы.

Нябывалае землятрасеньне ў Брытанскай Індыі зруйнавала зусім некалькі гарадоў. У некаторых мясцовасьцях выліліся рэкі; у провінцыі Бікар хаты знаходзяцца на колькі мэтраў пад паверхняю зямлі. Хвалі ракі Гангу нясуць тысячы трупаў. Лік ахвяраў дасягае каля 20.000 забітых, 80.000 раненых і 100 тысяч бяздомных.

Трамвай бяз рэльсаў уведзены ўжо ў Аўстрыі.

Пісьмы пад дыктоўку. У пасьпешных цягнікох на лініі Лёндан-Нэвшатэль уладжаны пакоі, у якіх можна вясьці корэспондэнцыю. Хопіць толькі сказаць зьмест пісьма ў дыктафон, г. знач. прыладзьдзе, якое, быццам тэлефон, пераносіць словы ад таго, хто гаворыць, да таго, хто піша на машыне, і пісьмо гатовае.

Сьв. Пісаньне на кавалачку паперы 52 см. даўжыні 78 см. шырыні перапісаў адзін Японец.

Пісальную машыну для сьляпых выдумаў адзін Амэрыканец; яна мае толькі 6 клявішаў. Альфабэт аснованы на сыстэме пісьма для сьляпых Брайля.

100.000 тоннаў жыта закупіла ў Польшчы Амэрыка.

Газ з дрывянога вугля замест бэнзыны ўжывае самаход, які курсуе паміж Гаіфай і Кабулам — сталіцай Афганістану (Малая Азія). Гэты спосаб таньнейшы за ўжываньне бэнзыны на 60 проц.

*Przesyłka opłacona ryczałtem.*

# Календар

на м—ц Чэрвень 1934 г.

**Стары стыль.** **Новы стыль.**

| Календ. нядз. і сьв. гр.-слав. абр. | | | Kalend. niadz. i św. łacin. abr. | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Ч | Юстыны | 14 | Č | Bazyla Wialikaha |
| 2 | П | Нікіфара | 15 | P | Wita. Madesta |
| 3 | С | Лукільляна | 16 | S | Benona. Justyny |
| 4 | Н | **Н. 3 п. Пяцьдз. Мітраф.** | 17 | N | **Adolfa. Marcijana** |
| 5 | П | Дарахвея | 18 | P | Marka. Marcelina. Achr. |
| 6 | А | Ап. Юды бр. Госп. | 19 | A | Gerwazyja. Pratasa. Jul. |
| 7 | С | Мяфода і Маркеліна П. Р. | 20 | S | Sylweryja |
| 8 | Ч | Маркелла | 21 | Č | Aloiza |
| 9 | П | Кірылы і Тэклі | 22 | P | Paŭlina |
| 10 | С | Цімахвея | 23 | S | Zenona. Hrypiny |
| 11 | Н | **Н. 4 п. Пяцьдз.** Баўтрам. | 24 | N | **Naradž. Jana Chryścic.** |
| 12 | П | Ануфрыя | 25 | P | Wilhelma |
| 13 | А | Давіда | 26 | A | Jana. Paŭła. Wirhilija |
| 14 | С | Элісея | 27 | S | Uładysława |
| 15 | Ч | Амоса | 28 | Č | Lawona Lwa |
| 16 | П | Ціхана | 29 | P | **Sw. Ąp. Piotry i Paŭła** |
| 17 | С | Мануіла | 30 | S | Amili. Lucyny |
| | | | | | LIPIEŃ. |
| 18 | Н | **Н. 5 п. Пяцьдз.** Лявонція | 1 | N | **Najśw. Krywi Isusa.** Tead. |
| 19 | П | Юды. Ап. Засімы | 2 | P | **Adwiedziny N. Dz. Mar.** |
| 20 | А | Мяфода | 3 | A | Anatola. Lawona |
| 21 | С | Юльяна | 4 | S | Jazepa. Todara |
| 22 | Ч | Аўсея | 5 | Č | Antona. Maryi |
| 23 | П | Агрыпіны | 6 | P | Łucei. Daminiki |
| 24 | С | Нар. Іоана Хрысьціц | 7 | S | Apost. Kiryły i Metoda |
| 25 | Н | **Н. 6 п. Пяцьдз.** Фэўроніі | 8 | N | **Alžbiety Aŭhienia.** |
| 26 | П | Давіда Сол. | 9 | P | Weraniki. Zenona |
| 27 | А | Сампсона | 10 | A | Siem bratoŭ śpiač. muč. |
| 28 | С | Кіра і Іоана | 11 | S | Pałahiei dziewy. Jana P. |
| 29 | Ч | **Ап. Пётры і Паўла** | 12 | Č | Jana. Paŭlina, Feliksa |
| 30 | П | Сабор сьв. 12 Апост. | 13 | P | Henryka. Marharyty. |

Рэдактар а. А. НЕМАНЦЭВІЧ.